Цана асобнага нумару 10 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 8 (59). Вільня, Нядзеля 23 студня 1927 г. Год III

# Сялянская Ніва

Няхай жыве Вольная, Незалежная, Злучаная Беларусь!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаваньга залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ

## Канфіската „Сялянскае Н вы“

**Па загаду Камісара Ураду на м Вільню канфіскаваны № 7 (58) „Сялянскае Нівы“ ад 22 студня с. г. за перадавіцу „Рэпрэсіі“, за артыкул „Беларускі Салянскі Саюз Моладзі“ і за адозву Беларускага Пасольскага Клюбу: „Грамадзяне Беларусы“!**

## „Избіеніе младенцев.“

Усе мы добра ведаем, як у Польшчы трактуецца беларускі нацыянальны рух. Ад самага часу паўстаньня да дзяржаўнага жыцьця Польшчы, а асабліва ад парэзаўшага Беларусь польска-большавіцкага міру ў Рызе мы чуем ад усялякага эндэцкага груганьня, дзікі крык „няма беларусаў“. Сэнтымэнтальныя польскія дэмакраты лічаць, што ўсіх сьвядомых Беларусаў можна зьмясьціць на адной канапе, а тоўстаскурае нашае абшарніцва прызнае беларускімі нават і самыя шырокія нашыя сялянскія масы, аднак-жа гледзячы на іх, як на шэрую скацінку, якую старым шляхоцкім звычаем трэба трымаць у чорным целе, каб ня мог мужычок нават і крыкнуць аб тым, што баліць.

З гэткіх дзіўных паглядаў усяго, бяз рожніцы польскага грамадзянства вынікае ў адношаньні да нас і ўся польскае палітыка. Усе яе добра ведаем, каб шмат аб ёй гаварыць. Ужо цэлы рад гадоў хрысьцяць нас антыдзяржаўнікамі; у разуменьні кожнага польскага мешчаніна словы *Беларус і камуністы* зроблены роўназначнымі словамі — сынонімамі. Аб гэтым стараецца ледзь ня ўся чыста польская прэса.

І ў рэзультаце бачым, што як-бы там нас з тою ці іншаю палітычнай масьцяй ні мяшалі, а прыходзіцца Палякам прызнацца, што Беларусы ў Польшчы ёсьць. Адсюль ужо пачынаецца панскі страх нашых „зуброў“, страх перад тым, што рух наш у тэй ці іншай форме выбіваецца на верх і магутна заяўляе аб сваім існаваньні. Нішто гэтага руху аўтаматычна стрымаць ня можа. Але-ж сьляпая клясавая ненавісьць абшарніцтва да масавага мужыцкага беларускага руху туманіць вочы паном сягоньняшняга палажэньня настолькі, што яны ня ведаюць іншага спосабу барацьбы з магутным рухам народу, як той іхні стары панскі спосаб, які можна назваць „культам бізуна“.

Палітычна рух наш малады. А ўсё маладое здольна на прыкрыя часам і для самога сябе, памылкі. І вось сёньня мы сьведкамі нябывалага ў гісторыі прававых дзяржаваў *ізбіенія* палітычных *младенцев*, якія, дайшоўшы да нацыянальнае сьвядомасьці, масава ўдарыліся ў беспляновы, збоку нашэптаны ім, радыкалізм. З гэткім пустым радыкалізмам у імя самога радыкалізму мы змагаліся па меры сваіх сіл, лічачы яго часовым зьявішчам і шчыра верачы, што ў сялянстве нашым аж надта досіць ёсьць здаровага розуму на тое, каб на чужыя дабрадзействы не разьлічаць, а спадзявацца лепшае долі толькі ад сваіх уласных нацыянальных здольнасьцяў да самастойнага жыцьця. Большасьць маладых гарачых галоваў нашае сялянскае моладзі кінулася ў іншы бок, можа ў прастаце душы наіўна думаючы, што праўда заўсёды там, дзе большасьць.

Як на грэх сталася так, што большасьць нашага народу ў руках маскоўскіх бальшавікоў. Аднак-жа мы маема сьмеласьць цьвярдзіць, што ня там яшчэ наша нацыянальная праўда. Сваю нацыянальную праўду беларускі народ оласна абвясьціў на ўсебеларускім конгрэсе ў 1917 годзе, разагнаным сілаю тых-жа самых бальшавікоў, марку якіх шалёны польскі нацыяналізм стараецца наляпіць на кожнае праяўленьне масавага беларускага руху.

Падзеі сёньняшніх дзён павінны кожнага з нас навучыць шмат чаму, павіны даць зразумець кожнаму, што ніякія ірадавы пагромы нашай нацыянальнай самабытнасьці не заб'юць і ніякага трыўмфу не дадуць ворагам беларускага руху, з якога-б боку гэтыя ворагі ні находзілі.

З малымі вельмі выпадкамі ўся польская прэса робіць з міністра справядлівасьці п. Мэйштовіча героя дня, забыўшы нават зусім, што гэты-ж самы пан Мэйштовіч умеў калісь рабіць і іншыя рэчы, чымся дзіўная яго інтэрпрэтацыя правілаў Польскай Конституцыі, пісанай бяз нас, бяз Беларусаў. Умеў-жа-ж п. Мэйштовіч разам з іншымі краёвымі абшарнікамі стаўляць побач з віленскай катэдраю вялізны памятнік найбольшаму хіба ворагу польскае дзяржаўнасьці наагул — Кацярыне 2-ой. Умеў згадзіцца і з надпісам на гэтым памятніку „отторжанная воз вратих“.

Толькі міністар з гэткаю гістарычнаю мінуласьцю мог замахнуцца на *ўсё-ж такі легальны беларускі рух* у тэй яго форме, якую мы лічылі непажаданай для нашага гаротнага сялянства.

І гэтае сялянства нашае, вытрываўшае на сваім вяку не адзін жах нядолі, мы клічам да зьядваньня пры сваім нацыянальным штандары, каб лягчэй вытрываць было ўсе нашыя злыбяды.

А п. п. Мэйштовічы хай памятаюць, што „избіеніем младенцев“ ня была забіта ідэя любасьці да бліжняга, ахапіўшая цяпер усё культурнае чалавецтва. Ня будзе гэтым спосабам забіта і ідэя поўнага беларускага нацыянальнага адраджэньня.

# Польскія рэпрэсіі і арышты.

### Арышты ў Заходняй Беларусі

Лік арыштаваных у некатарых паветах значна павялічыўся. У наваградзкім павеце арыштавана агулам 56 асобаў:

У Гародні і гарадзенскім павэце лік арыштаваных узрос да 34; У Беластоцкім павеце— 22; у Сакольскім пав. да 12; у Ваўкавыскім пав. да 9. На абшеры ваяводства Беластоцкага — 90 асобаў. З гэтага лікн на абшар паветаў: бельскага 20, Горадзенскага — 30.

### Незаконная рэвізыя.

У ноч, калі рабіліся арышты дзеячаў „Грамады“, польская паліцыя зьявілася ў прыватную кватэру п. Тарашкевіча ў Вільні. Дзеля таго, што там нікога не было дома а дзьверы былі пазамыканы, паліцыя сама без гаспадароў кватэры выламала двоя дзьвярэй і зрабіла ў кватэры пасла рэвізыю. Пэўне-ж рэвізыя нічога ня выкрыла. Вось як у „вольнай дэмакратычнай“ Польшчы, шануюць незачэпнасьць пасла — ламаюць дзьверы і бяз гаспадара самі паліцыянты са шпікамі робяць рэвізыю!

### Злосныя выдумы.

У сувязі з рэпрэсіямі, якія распачаў польскі ўрад адносна „Громады“ усе польскія газэты друкавалі шмат злосных, нязгодных з праўдаю выдумаў. Найбольш у гэтым убіваецца абшарніцкае „Слова“, якое пайшло ўжо далей на'т за „Dzień. Wil.“, орган эндэкаў і дэфэнзывы.

Ужо ў першых вестках аб арыштах беларускіх пасло ў і ліквідацыі „Грамады“ газэты падалі, што паліцыя а 3 гадзіне ўварвалася ў кватэру цэнтральнага сэкрэтарыяту, дзе адбывалася паседжаньне· Што гэта ёсьць мена, дык відаць на'т з тых самых польскіх газэт. Бо якім парадкам магло быць а 3 гадзіне ў начы паседжаньне Цэнтр. Камітэту, калі ў гэтым самым часе галоўных павадыроў „Грамады“ не было зусім у Сэкрэтарыяце, бо п. Тарашкевіча арыштавалі ў Калёніі (под Вільняй), п. Рак-Міхайлоўскага на вакзале, а Валошына ў прыватнай кватэры; пасла Мятлы зусім не было ў Вільні.

Другі прыклад гэта весткі аб Беларускім Банку. Польскія газэты надрукавалі, што ў Банку знайшлі па рахунку „Громады“—500.000 зл Цяпер выясьнілася, што гэта мана.

Трэці прыклад маны гэта тое, што пры арышце п. Тарашкевіча знайшлі пры ім вялікую суму даляраў, чуць ня 10.000 і нейкія быццам кампрамітуючыя матэрыялы.

Калі ўсе гэтыя ілжывыя весткі былі даны польскім газэтам дыфензывай, дык у гэтым нічога няма дзіўнага, бо польская дэфэнзыва на на такія штукі вельмі ахвотна ідзе, але калі газэты самі выдумалі гэтыя злосныя, нязгодныя з праўдай весткі, дык гэта выглядае, што польская прэса робіцца даносчыкам на Беларусаў.

З гэтага ўсяго бачым, на колькі зьяўляюцца праўдзівымі ўсе весткі друкованыя ў польскіх газэтах адносна быццам праступкаў „Грамады“.

### У справе арышту паслоў.

17 г. студня каля гадзіны восьмай ўвечары маршалак Сойму Ратай прыслаў да міністра справядлівасьці Мейштовіча ліст гэткага зьместу:

Апіраючыся на пісьмо ад дня 15 г. м. і на інфармацыі п. Міністра так аб абставінах, паміж якіх пасту піла адабраньне вольнасьці паслом Тарашкевічу, Валошыну і Рак-Міхайлоўскаму, так і аб дзейнасьці, з-за якой засталіся яны затрымленымі, не найшоў дагэтуль досіць падставаў дзеля жаданьня звальненьня іх і забраньня адказнасьці за напступства звальненьня.

Аднак даведаўшыся, што ў працягу ўчарайшага дня адобрана вольнасьць паслом Галавачу і Мятле—ня ведаю, як аб'ясьніць гэта, ці ў сувязі са справай, з-за якой затрымана трох вышэй выказаных паслоў, ці таксама датычыцца гэта асобнай справы. Прашу аб сьпешным прысланьні мне высьвятленьняў.

Асобна прашу аб выразнае высьвятленьне, ці паслы Галавач і Мятла былі затрыманы на гарачай справе грамадзкага праступства, бо ня маючы магчымасьці належнага і самадзейнага высочываньня справы ўва ўсіх падрабязнасьцях, мушу з неабходнасьці абпірацца на асьвятленьню і інфармацыях п. Міністра.

Хачу толькі выткнуць, што калі-б адабраньне вольнасьці паслом Галавачу і Мятле стаяла ў сувязі са справай трох вышэйвыказаных паслоў, дык факт, што наступіла яно амальшто ў 24 гадзіны пазьней пацягаваўбы сумлівасьць ці выяўляецца прыпадак залаўленьня на гарачай рабоце.

(—) *Ратай* маршалак Сойму.

## Прысылайце грошы на падпіску.

### Выясьненьне міністра Мэйштовіча ў справе арыштаваньня паслоў.

У сувязі з арыштаваньнем паслоў Мятлы і Галавача маршалак Ратай атрымаў раніцай 19 г. студня наступны ліст:

Маю гонар паведаміць п. маршалка, што паслы ў Сойм Пётра Мятла і Фэлікс Галавач былі затрыманы: першы ў Глыбокім, другі ў Валожыне на факце выкананьня праступнай дзейнасьці, скіраванай проці бясьпечнасьці дзяржавы і ведзенай пад дырэктывай дзейнікаў за грошы якія ішлі з-за граніцы. Задзержаньне іх зроблена на прапазыцыю падпракуратора Апэляцыйнага суда ў Вільні ў сувязі з разпараджэньнем аб затрыманьню паслоў Тарашкевіча, Валошына і Рак-Міхайлоўскага і было патрэбным дзеля абясшкоджаньня вынікаў праступства.

(—) Міністар *Мэйштовіч.*

### Справа арыштаваных паслоў перад Соймам.

Заступнік старшыні беларускага парлямэнтарнага клюбу сэн. Багдановіч даведаўся да маршалка Ратая і падняў у гутарцы з ім справу арыштаваных паслоў беларускай „Грамады.

Маршалак Ратай аб'ясьніў, што міністар справядлівасьці прадставіў яму доказы таго, што дзейнасьць арыштаваных паслоў пераходзіла мяжу звычайнай партыйнай работы і была кіраваная дзейнікамі, якія знаходзяцца за межамі дзяржавы.

Маршалак чуецца змушаным паставіць усю справу на разважаньне Сойму, бо выткнутае з яго боку жаданьне аб безадкладным звальненьню арыштаваных паслоў, абцяжыла-б яго вельмі паважнай адказнасьцяй, якой як маршалак Сойму ня хацеў-бы і ня мог-бы прыняць.

### Чуткі з Сойму.

У сувязі з учыненай ліквідацыяй Грамады, а таксама з арыштамі паслоў, у соймавых колах дзяржыцца пераконаньне, што гэтая апошняя справа будзе паміж Соймам і Ўрадам закончана шчасьліва. Сойм баіцца выклікаць конфлікт (спрэчку) з Урадам з-за беларускіх паслоў. Эндэкі і другія соймавыя клюбы выказвалі напачатку ахвоту выступіць з ініцыятывай (з пачынам) каб была сабрана рэгуляміновая камісыя, якая выказалася-бы ў справе арышту паслоў без папярэдняй працэдуры выданьня іх праз Сойм. Але гэтая думка не знайшла сабе шмат прыхільнікаў і дзеля гэтага можна дагадацца, што Сойм опозыцыі (супроціўнага выступленьня) рабіць ня будзе. Нічога дзіўнага, бо ходзе тут аб беларускіх паслоў.

### З рэгуляміновай камісіі.

Павадыр соймавай рэгулямінавай камісыі пасол Попель склікаў на панядзелак 24 г. студня паседжаньне. Камісія займецца справай арыштаваных паслоў і падасьць пленум Сойму свае пагляды і прапазыцыі у гэтай справе.

### Паседжаньне Сойму.

Канцэлярыя Сойму разаслала 19 г. студня павядамленьне ўсім паслом, што пленарнае паседжаньне Сойму збярэцца 25 г. месяца а 3 гадзіне па палудні. Парадак дня паседжаньня будзе пасланы паслом на іх кватэры.

## Як уберагчыся ад сухотаў.

Найстрашнейшая хвароба, якая шляхуе чалавека ад калыскі аж да магілы — гэта ёсьць сухоты, ці туберкулёза.

Сухоты ёсьць хвароба пераважна дзіцячага веку, бо як паказвае статыстыка ёю (гэтаю хваробаю) ёсьць заражана ў некатарых местах 70% дзяцей, але толькі $^{1}/_{8}$ з іх хварэе, а з тых уміpае палавіна.

Такім чынам, бачымо, які вялікі процант людзей ёсьць гублены гэтаю хваробаю, а дзеля гэтага ўсе культурныя народы стараюцца ўсімі сіламі змагацца з гэтым ворагам. І ясна, што больш энэргічна і прадукцыйна будзе змагацца той народ, які асьведамлены аб значэньні гэтае барацьбы.

1) Сухоты — хвароба заразьлівая і тым страшнейшая, чым малодшае цела.

2) Сухоты — хвароба вылячымая, чым скарэй яна распазнаная і правідлова лечыцца.

3) Сухоты ня ёсьць хвароба спадковая (не пераходзіць з бацькоў на дзяцей)

4) Прыроднымі ворагамі гэтае хваробы ёсьць: сонца, чыстае паветра і здаровы харч.

### 1. Сухоты хвароба заразьлівая.

Найгалаўнейшым жаралом заразы гэта ёсьць хворы на сухоты чалавек, які пры кашлі разам з сваім харкацецьвем выкідае мільёны бацыляў. Калі такі хворы ня дбае аб чыстаце, а плюе куды папала нпр., на падлогу, то харкацецьне высыхае і пры падмятаньні распыляецца ў паветры, а разам з ім і тая вялізарная лічба бацыляў, якія з удыхаючым паветрам дастаюгца ў лёгкія здаровага чалавека.

Я бачыў адзін прапагандны фільм, на якім паказана, як заражаюцца адзін ад аднаго напр. ў сям'і. Бацька — пекар, хворы на сухоты, пасьля свае цяжкое працы прыходзіць да хаты, кашляе і харкае на падлогу. Тут-жа на падлозе забаўляюцца дзеці якія свае цацкі пакачаўшы ў пляўкох, бяруць у рукі ў рот гэтым прыносяць да сябе заразу.

Дамовыя зьвяраты таксама могуць быць пераношчыкамі заразы, як напр. сабака або кот, а ўласьне тым спосабам, што выкачаўшыся ў пляўкох хворага чалавека, а пасьля калі дзеці з імі забаўляюцца тулячыся галавою да іх удыхаюць тыя бацылы, якіх яны трымаюць ў свае й шэрсьці.

Малако ад каровы хворае на туберкулёзы, таксама можа быць прычынаю заразы.

Такім чынам бачымо, што каб убярагчыся ад гэтае хваробы трэба быць абярэжным з хворым на сухоты, пры гутарцы ня быць вельмі блізка, (бо пры гутарцы часта вылятаюць капелькі сьліны, якія могуць быць прычынаю заразы) не ўжываць тых самых рэчаў, якія ўжывае хворы (лыжкі, міскі, хустачкі, ручнікі і г. д.) ня спаць у вадной пасьцелі, не цалавацца і г. д.

Хворага на сухоты трэба прывучыць, каб ня плюў дзе папала, а каб меў місачку якую можна вымыць якім небудзь дэзынфэкцыйным сродкам пар. лізолелі. Рукі павінен трымаць як ў найбольшай чыстаце, не кашляць другім да твару, а пры кашлі закрываць рот хустачкаю.

Той хворы, які ведае аб сваей хваробе, а ня будзе трымацца ўсяго гэтага, будзе прычынаю хваробы іншых людзей.

Хворага, які дбае аб чыстаце ня трэба баяцца і ўцякаць ад яго, бо гэтым яго сумнае жыцьце зробіш яшчэ больш цяжкім.

### 2. Сухоты - хвароба вылячымая.

Сухоты могуць быць: лёгачныя, сустаўныя, скурныя і г. д. Але больш ўсяго хварэе людзей сухотамі лёгкіх. Калі сухоты лячыць ад зачатку, то можна разлічваць на поўнае вылячэньне, а дзеля гэтага каб не запусьціць хваробы, галоўнае ў малых дзяцей, трэба пры кожным ненармальным стане дзіцяці, як напр. спадна вазе, атсутнасьці апэтыту, начныя поты, болі ў грудзёх, зьвярнуцца да лекара, які скажа што ёсьць.

### 3. Сухоты, ня ёсьць хваробай спадковай.

Ад хворых бацькоў дзеці родзяцца здаровымі, але заражаюцца ад хворых бацькоў ў пачатках свайго жыцьця, Такія бацькі павінны аддаць свае дзіця гадаваць да здаровых людзей, пакуль ня вырасьце, бо дарослы чалавек цяжэй падлягае гэтай хваробе, чым дзіця.

### 4. Прыроднымі ворагамі сухотаў ёсьць: сонца, сьвежае паветра, здаровы харч.

Як ведама, тубэркулёзныя бацылы ня выносяць сонца, а дзеля гэтага сонца і сьвежае паветра ёсьць найлепшым лекарам для хворых на сухоты. Здаровая а правельная ежа ёсьць адным з галоўных дзейнікаў, якія дапамагаюць арганізму змагацца з гатае хваробаю, а дзеля гэтага кожны мусіць старацца, быць як больш на сьвежым паветры, купацца, рабіць гімнастыку, добра ветрыць пакоі, а па магчымасьці старацца спаць пры адчыняных вокнах і г. д.

Такім чынам бачымо, што гэтая хвароба ёсьць вельмі паважная і небясьпечная перадусім для дзіцячага веку. Народ, які хоча мець здаровае пакаленьне мусіць вельмі вялікую ўвагу зьвярнуць на дзяцей. Найлепшым мейсцам дзе можна кантраляваць здароў'е дзецей, гэта школа. Як у пачатковых, так і ў гімназіях, было-б вельмі пажаданна, каб кожны вучань быў найменей два разы на год перагледжаны лекарам. Нам беларусам гэта вельмі цяжка, бо прыходзіцца яшчэ змагацца за сваю родную школу.

Усе аднак беларусы павінны дбаць аб здароўі дзетак — грамадзян будучае Вольнае Беларусі.

*К. Ф.*

## Беларускае жыцьце у Латвіі.

### Аб сталым кіраўніку Беларускага Аддзелу.

Беларускія арганізацыі зьвярнуліся да новага ўраду Латвіі з просьбай аб зацьверджаньні на пасаду сталага кіраўніка Беларускага Аддзелу гр. У. Пігулеўскага, кандыдатура якога высоўвалася яшчэ пры старым урадзе, але ня была зацьверджана.

### Беларускае пазычкава-ашчад. Т-ва ў Дзьвінску.

У Дзьвінску латгальскі акружны суд зацьвердзіў статут „Дзьвінскага Беларускага Пазычкова-Ашчаднага Т-ва“.

Гэтае Т-ва зьяўляецца першаю спробаю дзьвінскага беларускага грамадзянства згуртавацца на грунце эканамічнае самаарганізацыі і ўзаемадапамогі.

Шчыра вітаючы гэты першы крок Беларусаў Дзьвінску, жадаемо поўнага пасьпеху ў гэтай вельмі важнай для нас працы.

ЭМІЛЬ ЗОЛЯ.

# ПАВОДКА.

(Пераклад з французкагá **Л. М.**).

(Працяг).

V.

Асталося нас ня болей як пяцёра на страсе. Вада пакінула нам толькі вузенькі пасак удоўж крэйкі. Адзін комін ужо зьнясло. Трэба было падняць і дзяржаць на нагах Вэроніку і Марылю, каб вада не мачыла іх. Нарэшце, прышлі яны да памяці, і мы яшчэ болей занепакоіліся колі пабачылі іх прамоклых, азяблых, у дрыгаце і з непрастанным крыкам, што яны ня хочуць уміраць. Мы ўсупакоівалі іх, як малых дзяцей, кажучы што вось яны яшчэ не памерлі, што мы перашкодзім сьмерці забраць іх. Але яны ня верылі болі, зналі добра, што памруць. І кожны раз, калі гучэла, як хаўтурны звон слова „паміраць“, зубы іх ляскалі і страх кідаў адну аднэй на грудзі.

Прышоў канец. Згрузатаная вёска не паказавалася болей каля нас, апрача некалькіх сьцен. Толькі касьцёл высунуў сваю непарушаную званіцу, адкуль усьцяж даносіўся шэпт пакутнікаў (прытульнікаў). У ваддалі ракатала непамерная цеч водаў. Ня чуваць было ўжо болей абвалу дамоў, падобнага да жарствы, якую высыпаюць з павозак. На часіну выдалася нам, што злева стаў чутны шум вёслаў. Сказаў-бы хто, што гэта плеск, прыемны, мерны, усё болей і болей выразны. Ах! што-ж гэта за музыка надзеі, як мы ўсе выцягнуліся з пытаньнем да праствору! Мы затаілі аддых. І нічога ня ўбачылі. Жоўты абрус рассцілаўся, паплямлены чорнымі ценямі, але ніякая з гэтых ценяў, вяршын дрэў, рэшткаў сьцен, што абваліліся, не парушылася. Ад таго часу чакалі мы кожную сэкунду, што будзем пахлынены з распадам дому. Апошні быў ужо падрыты, ён не трымаўся болей чымся на аднэй грубейшай сьцяне, якая распаўшыся завалілa-бы яго ўвесь. Але тое, што мяне пужала найболі, было пачуцьцё, што страха пад намі гнулася. Дом яшчэ быць можа дастоіў-бы ўсю ноч, але дахоўкі павываліваліся паразбіваныя і падюраўленыя калодкамі. Мы ўцяклі налева, на кроквы яшчэ мацнейшыя. Скора сталі гнуцца і яны. Ведама, маглі яны ўгнуцца, калі мы ўсе пяцёра кучай стаялі на адным і тымсамым малым куску страхі. Праз некалькі мінут брат Пётра ткнуў машынальным гэстам у рот сваю люльку. Стаў круціць ён свае, старога салдата, вусы, бровы насупіў, лаяўся няўнятным голасам. Гэты страх, што павялічываўся каля яго і ў параўнаньні з якім, яго адвага было нішто, начынаў яго моцна нецярплівіць. Ён сплюнуў разы два-тры ў ваду са злой ненавісьцяй. Потым, як мы ўсё далей апушчаліся, ён парашыўся і спусьціўся са страхі.

— Пётра! Пётра! крычэў я, баючыся яго зразумець.

Ён абярнуўся і сказаў мне супакойна:

— Бывай здароў, Людвік.,. Ты відзіш, гэтак для мяне задоўга. Так будзе вам месца.

І кінуўшы на самперад люльку, ён паляцеў і сам дадаючы:

— Добры вечар, мне ўжо досыць усяго.

Болей ён не паказаўся. Быў плавец сярэдні. Відзячы наша знішчэньне і сьмерць усіх нашых, сэрца яго не дадзержыла і ён адчаіўся, ня хочучы чакаць на сьмерць як мы ўсе. Другой гадзінай на раніцы зазванілі ў касьцеле. Ноч кончылася, гэта страшэнная ноч поўная ўжо страху і слёзаў. Мала памалу пад нашымі нагамі зьмяншалася сухое месца; вада шумела, хвалькі гладзілі адна адну, гралі і папіхаліся. Цеч зьмянілася нанова, абломкі ішлі па правай старонe вёскі, плывучы павольна, усё роўна, бы вада даходзячы меры сваей паўнаты, засупакоілася, абняхаілася і заленілася.

Гаспард раптам сьцягнуў трэпкі і камізэльку. І калі я запытаўся ў яго дык:

— Слухай,дзядуля, кажа ён, я ўміраю ад пачаканьня. Я не магу болей аставацца... Пазволь мне ўзяцца за работу, я яе выратую.

Ён гаварыў аб Вэроніцы. Я не хацеў перабіваць яго замеру. Ніколі ня меў ён столькі сілы каб мог дацягнуць маладую дзяўчыну да касьцёлу. Але ён не адступаў.

— Я яе люблю, я яе ўратую, паўтараў ён

# З жыцьця пад Польшчай.

### Новае міністэрства.

Польскі ўрад м. Пілсудскага пастанавіў уваскрэсіць зліквідаванае раней міністэрства пошты і тэлеграфу. Міністрам гэтага новага міністэрства мае быць палк. Медзінскі—пасол з „Вызваленьня". Бачым, як у Польшчы робіцца ўсё шыварат навыварат; каб даць пілсудчыку пасаду міністра, робіцца новае міністэрства, на кошт усякага грамадзянства,

### Праект уставы аб навабранцах.

Міністар вайсковых справаў Пілсудскі прыслаў у Сойм праект уставы аб навабранцах на 1927 год.

### Кража амуніцыі.

Ужо даўно ў Горадні моцна зацікаўлены кражай невядомымі асобамі амуніцыі з 29 паўка артылерыі. Кража зроблена вельмі спрытна. У таемны спосаб згінулі стрэльбы, набоі, а таксама газовыя маскі. Відаць, што пакража была ў ночы.

# НАВІНЫ.

**— Сабраньне Аддзелу Інстытуту.** У нядзелю 6 лютага адбудзецца сабраньне дэлегатаў Віленскага Аддзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

**— Справаздача Гуртка Інстытуту ў Барадзенічах, Брасл. пав.** 1) Ад часу залегалізаваньня Гуртка адбылося 6 тэатральных прадстаўленьняў; 2) адкрылі бібліятэку і чытальню; 3) мае адкрыць бюро паданьняў і суполкавую малачарню; 4) па касавай кнізе на 1927 г. лічыцца ў прыходах 71 зл. 85 гр., у расходах 56 зл. 26 гр., сальдо 15 зл. 59 гр.; 5) сапраўдных сяброў гурток мае 13.

**— Новы часовы літоўскі камітэт у Вільні.** У прайшоўшую нядзелю 16 г. м. ў доме № 8, вул. сьв. Мікалая адбыліся выбары новага часовага літоўскага камітэту ў Вільні.

Павадырстваваў на сабраньні кс. Кайкуштіс. Справаздачу за прошлы 1926 год адчытаў прэзэс камітету д-р Альсэйка. Пасьля былі выбары, якія далі гэткія рэзультаты: Сташыс, Ст. Юхневіч, кс. Раштутіс, Будрэвіч (усе Х. Д.), Карасіс і Вэлецкі.

**— Сабраньне т-ва ім. св. Казіміра.** 6 лютага г. г. у гадз. 5 у салі пры касьцеле св. Мікалая мае адбыцца гадовае агульнае сабраньне сяброў Літоўскага асьветнага т-ва ім. сьв. Казіміра. Парадак дзенны будзе гэткі:

1) Справаздача ўраду і рэвізыйнай камісіі. 2) Выбары новых сяброў ураду, а таксама рэвізыйнай камісіі. 3) Вольныя прапазыцыі.

**— Зламаньне касы ў Ляндварове.** У ночы з 14 на 15 б. м. незнаныя асобнікі напалі на касу Надлясьніцтва Ляндвароўскага і забралі 9 тыс. зл.

**— Плямісты тыфус.** Горадзенскі санітарны аддзел напаткаў чатыры заражэньні плямістым тыфусам на прадмесьці гораду.

# Маленькі фэльетон.

## Пісьмо да цёценькі.

Даражэнькая мая цёценька!...

Ужо па адным тым, што ў адзін дзень я атрымаў ад Вас аж 3 пісьмы, а 2 з іх на'т былі бяз марак — я адразу дагадаўся, што Вас нешта муча, што Вы штось абураны і пісалі свае пісьмы ў нэрвовым настрою...

Вы пытаецеся, як гэта магло здарыцца, што нашыя беларускія паслы на'т бяз ведама Сойму сталіся заарыштаванымі?!...

Цёценька даражэнькая! Ці Вы чытаеце газэты, ці не?!... І каб чыталі-б дый больш уважна, дык адразу Вам кінулася-б у вочы, што яны зусім не заарыштаваныя, а толькі „zatrzymane"... І то затрымлены на „gorącym uczynku"— Тарас на кватэры, Рачок у цягніку... а Маложын у ложку. Але ня думайце, даражэнькая, што калі іх затрымалі, дык яны і сядзяць тамака, дзе іх схапілі, бо сталася-б тое, што Тараса і Маложына прышлося-б увесь час трымаць у іхніх ложках, а Рачок увесь час сядзеў-бы ў цягніку, дый катаўся-б з Вільні ў Баранавічы, і з Баранавіч у Вільню...

А гэта-б усё выклікала-б не патрэбныя выдаткі і ўзмацненьне паліцыі, бо прышлося-б ахоўваць двух ля ложак, трэцьцяга ў цягніку... Але, як у нас усюды „oszczędność" на першым пляне (і ў Вас, даражэнькая цёценька, бо 2 пісьмы прыслалі бяз марак) дык і ўлады нашыя дзеля гэтага „zatrzymanych" адразу з „гарачага ўчынку", дый... на Лукішкі... Праўда, што я, як і Вы цяперака, доўгі час ня ведаў дзе яны, бо самі разумееце — час гарачы, а як пракурор быў недзе выехаўшы, дык ні ў кога больш не даведаешся...

Вось, Вашае другое запытаньне на конта 10 тысячаў даляраў знайдзяных у партфэлі Тараса, дык ведаеце, даражэнькая цёценька, і мяне паставіла ў тупік, і я надта шкадаваў, чаму гэта яны былі ў Тарасовым партфэлі, а ня ў мяне ў кішані... Тады-б... ого!... І я можа закаціў-бы тады „panimaeце-лі", такі самы банкет на 30 пэрсон, як „Беларуская Хатка" ў дзень свайго адкрыцьця...

Але цёценька даражэнькая!... Здаецца-ж Вы ўжо не маладыя .. здаецца жывіцё у дастатках... тое сёе маеце... і толькі я адзіны ваш насьледнік, а такая зайздрасьць да гэных даляраў... Тфу!... Дык вось наце! Не хацеў, пісаць, бо гэта як той казаў, сэкрэт, але каб гэтыя паршывыя даляры больш ня трывожылі Вас, дык змушаны сказаць Вам, што у партфэлі Тараса было знайдзяна ўсяго наўсяга ня больш як нейкіх 65 зл. Тфу!... — Прадчуваю, што і Вы сьплюніцеся даведаўшы гэта і ізноў абурыцеся і ізноў пачніцё хадзіць па пакоі і, патрасваючы ў руках газэтамі, накідвацца на кожнага з запытаньнем — ці праўда ўсё тое, што пішацца ў польскіх газэтах...

Але-ж цёценька даражэнькая!... І гэта кажуць, што Вы кабета спрактыкаваная і „старарэжымная", а дагэтага часу ня ведаеце, што ў газэтах не заўсёды ўсё тое праўда, што пішацца і што калі яны занадта шумяць, дык гэта, як кажа Ваш абшарнік: „каб чытачы больш цешыліся".

Што-ж датычыцца пасла Мяцеліцы, дык, даражэнькая цёценька, якраз тое, што Вы ў мяне пытаецеся, запытаўся і Маршалак у міністра і аказалася, што „гарачы ўчынак" працягнуўся, аж за 24 гадзіны...

Як маюцца і як цяперака чуюць паны Антоні, Паўлюкевіч і іншыя Вашые знаёмые, дык гэта даражэнькая цёценька, як нябудзь ужо ў іншы раз... а цяперака бывайце здаровенькі... Пішыце і будзьце пэўны, што на ўсялякае Вашае запытаньне атрымаеце хуткі адказ, але калі ласка, бяз „oszczędności", бо мне, як безработнаму аплачваць 40 грошаў даплаты за вашыя пісьмы цяжка — за гэтыя грошы, якраз, меў-бы пачку „Ванды"...

Любячы Ваш племяш **Пётра.**

З аргіналам згодна.

*Стары Хасень.*

# СЛУЖБА.

Ну, мой братка, цяжка жыць,
Цяжка жыць, паном служыць,
Ды і як яшчэ служыць,
Трэба ўсюды ўгадзіць;
А як трохі не ўгадзіў
Ды ня так яшчэ ступіў,
Пан тады равець як бык,
Як той чорт ці злы індык.
І ўжо кару накладаець,
Работніка праганяець,
Як сабаку моцна злаіць,
Хоць рабіў ён цэлы год
Ды ня мае ані злот.

*С. Кавалёнак.*

# Што дзеецца ў сьвеце?

### З Літвы.

З Коўна пішуць, у апошніх днях адбыўся тут зьезд таўцінінкаў, на якім меў прамову прэм'ер Вальдэмарас. Зробленыя зьездам рэзалюцыі выклікалі вялікае ўзрушэньне ў палітычных кругох. Гэныя рэзалюцыі дабіваюцца ўдзержкі ваеннага стану, падоўжаньня пасольскіх мандатаў да 5 гадоў, паменшаньня ліку паслоў у Сойм да 35, а таксама правядзеньня выбараў прэзыдэнта торам галасаваньня выбарных, прыкладам Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі.

### Канчатак згавораў дэлегацыяў латвійскай і эстонскай.

Пасьля трохнядзельных згавораў дэлегацыя латвійская і эстонская на ўмовы ў справе мытнай вуніі (аб'еднаньня) скончыла 16 г. студня сваю работу. У выніках паседжаньняў, якія трывалі гэтага дня 8 гадзін, дапята поўнага паразуменьня на ўсіх пунктах. Конфэрэнцыя прыняла праект трактату (дагавору), які будзе падпісаны пасьля зацьверджаньня яго праз абодва ўрады. Эстонская дэлегацыя 17 г. студня выехала ў Талін.

Я стаяў і маўчаў, тулячы да сваіх грудзяў Марылю. Тады яму выдалася, што папрэкаю яго эгоізм любоўны і ён стаў тлумачыцца:

— Я вярнуся ўзяць Марылю, клянуся вам. Я знайду лодку, я з'арганізую якую-кольвек помач. Мейце надзею, дзядуля.

Не пакінуў на сабе нічога, апрача портак. І нечакаючы ў паўголаса скіраваўся са сваімі плянамі да Вэронікі. Тая не адбівалася, аддалася без наймнейшага супраціву, а перадусім ня мела яна страху. Маладая дзяўчына на кожны яго сказ адказвала але, з нейкім памешаньнем на твары. Нарэшце палажыўшы на сябе крыж, хоць ён і ня быў надта набожным, стаў ссувацца па страсе, цягнучы за сабой Вэроніку на вяроўцы, якую прывязаў ей пад пахамі. Яна моцна закрычэла, запляскала па вадзе, потым, задыхаўшыся паддалася.

— Мне гэтак лепей падабаецца, крычэў Гаспард. Цяпер, я за яе адказваю.

Выабразеце сабе з якім непакоем сачыў я іх вачыма. На яснай вадзе я адрожніваў наймнейшыя рухі Гаспарда. Ён прытрымліваў маладую дзяўчыну з помачай вяроўкі, якую абматаў каля сваей шыі, і гэтак яе нёс, ускінуўшы наўпол на свае правае плячо. Гэты цяжар нагнятаючы занураў яго калі-ні-калі, аднак ён ішоў наперад, плывучы з нечалавечай сілай. Я не мыліўся, пераплыў ён ужо быў трэць адлегласьці, калі зачапіўся за абломак сьцяны, укрытай пад вадой. Удар быў гвалтоўны. Абое зьнiклі. Потым убачыў, як ён паказаўся адзін. Вяроўка ма быць парвалася. Ён нырнуў два разы. Урэшце выплыў, выцягнуў Вэроніку і уськінуў яе сабе на хрыбет. Але ня меў вяроўкі каб яе прывязаць і яна прыціскала яго яшчэ мацней. Аднак пасуваўся уперад. Я ўвесь калаціўся, калі бачыў як яны зьбліжаліся да касьцёла. Разам хацеў я закрычэць, скора прыкмеціў, што з боку падплывалі калодкі. Але глядзеў я толькі расчыніўшы рот: штурхнула іх яшчэ раз і разняло, воды зацягнуліся.

Ад гэтага часу я стаяў аслупеўшы. Ува мне ўжо нічога не асталося, як толькі чуцьцё зьвера, што думае аб сваім ратунку. Калі вада зьбліжалася да мяне, я адсуваўся далей. У гэтым аслупеньні а доўга слухаў сьмеху, не разважаючы аб тым, хто-бы мог сьмяяцца блізка мяне.

Дзень зьявіўся, паказалася вялікая сьветлая зара. Сьмех гучэў і далей. Абарачываючыся я знайшоў Марылю, якая проста стаяла ў сваей мокрай адзежы. Гэта была яна, што сьмяялася. Ах! беднае, дарагое стварэньне, як была яна прыемна і прыгожа ў гэту часіну раніцы! Я відзеў як апусьцілася яна, каб набраць жменяй са шчэліны трохі вады, якой мыла сабе твар. Потым запляла свае прыгожыя русыя валасы, завязала іх на патыліцы. Ня было сумліву, рабіла яна свой тоалет, мусіць ей выдавалася, што яна ў сваім маленькім пакоіку нядзеляй, калі прыемна гучыць звон. І яна ўсё сьмяялася, сваім дзяцінным сьмехам, з яснымі вачамі, са шчаслівым тварам.

Я таксама пачаў сьмяяцца, як яна, абхоплены яе намяшаньнем. Страх зрабіў яе памяшанай і была гэта падзяка неба, бо моцна, выдавалася, была яна абхопленай чыстатой вясеньняй зары.

Я не перашкаджаў ей спяшацца, нічога не зразумеўшы, паводзячы палёгку галавой. Яна ўсё ўхарошывалася. Потым, як ей выдалася, што ўжо можна выйсьці, яна запела сваім крышталовым голасам адну са сваіх набожных песьняў. Але разам застанавілася, закрычэла, усё роўна, як адказывала на голас, што яе заваў і ей адной быў чутны.

— Я іду! я іду!

Пачала зноў свой кантік, сайшла па ўклону страхі, вайшла не зжыхнуўшыся ў ваду, якая полегку ўкрыла яе. Я ня мог утрымацца, каб ня засьмяяцца. Глядзеў я шчаслівым вокам на месца, дзе яна знікла.

Далей я сабе не прыпамінаю: Я быў саўсім адзін на страсе. Вада яшчэ паднялася. Адзін комін стаяў, і думаю, што я туды ўзьбіраўся са ўсей сілы, як зьвер, што ня хоча згінуць. Потым нічога, нічога, нічога, чорная пропасьць ніякасьць.

(Далей будзе).

